Чацьвер
31 траўня 2007 г.
№ 7 (33)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП Разам для Мастоў
# ПРАЎДА Мастоўская

Калі вы жадаеце атрымліваць у далейшым наша выданне, калі ласка, дашліце sms з паведамленнем адраса, на які павінна прыходзіць "Мастоўская праўда" на нумар :
+ 48 511 22 34 40

# ПЛОШЧА МЯНЯЕ ВЫГЛЯД

25 траўня многія жыхары г. Масты не пазналі цэнтральную плошчу горада. Адметнасць нашага гарадку - сінія елкі вакол помніка Леніну былі спілаваныя, асфальт зьняты. Пачалася рэканструкцыя плошчы. Аднак мала хто ведае, як яна будзе выглядаць. Нашыя ўлады ўжо даўно перасталі лічыцца з народам. Ніхто ўжо і не кажа пра тое, каб правесці абмеркаванне з людзьмі, разглядзець прапановы грамадзян і г.д. Цяпер нават і не парупіліся патлумачыць, што збіраюцца рабіць. Горад ужо і не належыць грамадзянам, ён ва ўласнасці вертыкальшчыкаў, ім вырашаць як нам жыць лепш, мы самыя і не ведаем - "глупыя" напэўна. А многія, хто праходзіў праз плошчу, калі знішчалі елкі, круцілі пальцам каля віску. Яны не разумелі, навошта гэта робіцца. Але вертыкальшчыкі і не будуць ні ў кога пытацца, што ім рабіць, таму што залежаць яны толькі ад галоўнакамандуючага, які сядзіць у Мінску, а не ад грамадзян. **А.К**



*З архіву МП*

## КЛОПАТ ДЗЯРЖАВЫ АБО ІЛЬГОТЫ, ЯКІЯ СТРАЦІЛІ ПААСОБНЫЯ КАТЭГОРЫІ ГРАМАДЗЯНАЎ

Вайскоўцы, супрацоўнікі органаў унутраных спраў, фінансавых расьсьледаваньняў, злучэньняў па надзвычайных сытуацыях і іх сямейнікаў: бясплатнае прадстаўленьне лекаў, бясплатны праезд у адпачынак

**Былыя вязьні фашысцкіх канцлягераў, іншых месцаў прымусовага утрыманьня : бясплатныя лекі, бясплатны выраб і рамонт зубных пратэзаў, бясплатны праезд у гарадзкім і прыгарадным транспарце.**

Навучэнцы, вэтэраны працы, грамадзяне пры выкананьні службовых абавязкаў: 50-працэнтная зьніжка кошту праезду на пасажырскім транспарце.

**Вучні і студэнты : 50-працэнтная зьніжка на праезд у гарадзкім і прыгарадным транспарце, 50-працэнтная зьніжка на праезд па краіне з 1 кастрычніка па 30 чэрвеня па суботах, нядзелях і сьвятах.**

Людзі, што перанесьлі прамянёвую хваробу і сталі інвалідамі 1-2 групаў у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС: бясплатныя лекі, выдаваныя на рэцэпты, бясплатны праезд ад месца жыхарства да месца лячэньня, 50-працэнтная зьніжка на аплату за паслугі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, беспрацэнтная пазыка на будаўніцтва жытла з пагашэньнем 50 працэнтаў за кошт бюджэту.

**Дзеці да трох гадоў: бясплатныя лекі.**

Дзеці-інваліды: 50-працэнтная зьніжка на праезд па краіне .

Дзеці з тэрмінальнай стадыяй хранічнай ныркавай нядатнасьці: штогадовая грашовая кампэнсацыя выдаткаў на транспарт.

Абмежаваная колькасьць катэгорыяў асобаў, якім прадстаўляюцца льготы па аплаце жыльлёва-камунальных паслугаў, мэдычных і паслугаў сувязі.

Большасьці існуючых сёньня льготаў пазбаўляюцца члены сем'яў ільготніка, асабліва па аплаце жыльлёва-камунальных паслугаў і паслугаў сувязі.

**Юрыдычны аддзел МП**

## ЛЬГОТЫ СТУДЕНТОВ В СРАВНЕНИИ

В Украине студенты оплачивают только половину своих транспортных расходов, причем круглый год.

В России подобные льготы существуют не во всех субъектах Федерации, но очень многих. В своей вотчине - Москве - Юрий Лужков вообще сделал массу материальных послаблений для студентов столичных вузов. Кроме льготного проезда в городском транспорте существуют скидки для учащейся молодежи на питание, посещение спортивных объектов, различных культурных учреждений.

В Чехии, как и практически в любой стране Евросоюза, тех же Польше, к примеру, Литве, Латвии статус студента дневной формы обучения (как государственного, так и частного вуза) дает право на различные скидки и материальную помощь. Вот лишь их короткий перечень: дотации на проживание и питание, льготный проезд в транспорте, государственная социальная помощь, скидки на услуги в образовательных, культурных и спортивных учреждениях и многое другое.

Вообще же в 116 странах мира существует международная студенческая идентификационная карта ISIC (International Students Identification Card), которая охватывает 10 миллионов студентов. Эта карточка или система предоставляет широкие возможности скидок не только внутри страны, но и по всему миру. Студенты имеют право на льготный проезд, в том числе, в самолетах (скидки до 30%). Для обладателей ISIC существуют приличные скидки на посещение театров, дискотек, спортивных объектов, магазинов, проживание в гостиницах, кемпингах и т. д. и т. П.

**TUT.BY**

## Вада падаражэе

**Паводле заявы міністра ЖКГ Уладзіміра Белахвостава з 2008 г. тарыфы на ваду могуць быць павышаны, што павінна стаць стымулам для насельніцтва ўсталявання лічыльнікаў вады. Сцвярджаецца, што гэта выгадна.**

Спецыялісты ЖКГ сцвярджаюць, што лічыльнікі ставіць выгадна, таму што плата за ваду змяншаецца амаль у два разы (з улікам яшчэ і зніжкі ў 20%, якая даецца на тры гады тым, хто паставіў лічыльнік за свой кошт). Паводле меркаванняў асобных прадстаўнікоў ЖКГ, у двухпакаёвай кватэры лічыльнік акупляецца цалкам за год, у трохпакаёвай крыху даўжэй.

Міністар жыллёва камунальнай гаспадаркі Беларусі запэўніў насельніцтва, што пакуль павелічэнне тарыфаў ЖКГ паверх усталяванага ліміта ў 5 далл. ЗША не прадугледжваецца, аднак ён заявіў: "Міністэрства ЖКГ будзе ініцыяваць павелічэнне тарыфаў на ваду, сёння адзін кубічны метр яе абыходзіцца толькі ў 257 рублёў, што вядзе да бесгаспадарчасці." **А.К.**

# Дзейнічаем РАЗАМ!

**На дэпутацкі зварот ад 12 красавіка 2007 г. на імя намесніка Мастоўскага раённага выканаўчага камітэта Г. П. Снітко, у якім запытвалася дадатковая інфармацыя наконт пабудовы аўтамабільнай стаянкі, быў атрыманы адказ ад 04 мая 2007 г.**

У адказе плануемае месца размяшчэння аўтастаянкі ў адрозненне ад адказу ад 28 лютага 2007 г. на аналагічны дэпутацкі зварот ад 16 лютага 2007 г. змяняецца з тэрыторыі даччынага прадпрыемства "Мастоўская сельгастэхніка" ўнітарнага прадпрыемства "Аблсельгастэхніка" ў мікраразн П-3 па вул. Будаўнікоў. Аднак зноў жа пытанне як і тры месяцы таму знаходзіцца яшчэ толькі ў стане распрацоўкі. Пачатак будаўніцтва і неабходная сума фінансавання не вядомыя з-за адсутнасці праектна каштарыснай дакументацыі.

На прапанову аб пашырэнні месца для часовай паркоўкі прыватных аўтамабіляў ў двары дамоў № 7, 9, 11, 11А па вул. Будаўнікоў дзеля таго, каб аўтамабілі не размяшчаліся на пешаходных тратуарах, газонах, і не перашкаджалі руху пешаходаў, а таксама спецтэхнікі жыльлёва - камунальнай гаспадаркі, у адказе намесніка старшыні Мастоўскага райвыканкама Г. П. Снітко заяўляецца, што пашырэнне магчымае толькі пры правядзенні рэканструкцыі дваровай тэрыторыя. Аднак рэканструкцыя дваровай тэрыторы не запланавана на 2007 г. у сувязі з адсутнасцю сродкаў.

Прапаную ўсім жыхарам далучыцца да збору подпісаў пад прапановай запланаваць у раённым бюджэце сродкі на капітальны рамонт дваровай тэрыторы д. № 7, 9, 11, 11А па вул. Будаўнікоў і д. № 6 на 2008 г.

Калі Вы сапраўды зацікаўлены ў добраўпарадкаванні тэрыторыі каля Вашага дома, Вы павінны прыкласці свае намаганні дзеля гэтага. За нас самых ніхто не прыйдзе і не вырашыць нашы праблемы.

Толькі разам, аб'яднаўшы свае высілкі, мы зможам змяніць сітуацыю: з канца 1980-х пачатку 1990-х гадоў з часу пабудовы мікраёна тут не праводзілася ніякіх значных работ па ўпарадкаванню тэрыторы. Зараз усё ў нашых руках. Таксама трэба помніць, што бюджэт горада гэта нашы з Вамі грошы і мы ўсе разам павінны ўдзельнічаць у яго размеркаванні.



Дзмітрый Кухлей

Чым большую колькасць подпісаў мы збяром, тым большая верагоднасць дасягнення поспеху ў нашай справе.

Звяртаюся да ўсіх жыхароў д. № 7, 9, 11, 11А па вул. Будаўнікоў і д. № 6 па пр. Міра дасылаць мне свае прапановы і парады па вырашэнню пытання аб добраўпарадкаванні дваровай тэрыторы.

Кантактная інфармацыя:

Маб. тэлефон: +375 291 38 79 94
Пошта: а/с „,,, г. Масты
email: kuchlej@yahoo.com,
skype: nevergreen.
icq: 352223305

**Дзмітрый Кухлей,**
Дэпутат Мастоўскага
раённага Савета

РАЗАМ ДЛЯ МАСТОЎ

## А.МІЛІНКЕВІЧ каментуе адмену сацыяльных ільготаў

**"Сваім рашэннем беларускі парламент яшчэ раз прадэманстраваў, што ён кішэнны і несамастойны. Пазбаўленне парламентарыямі ільготаў не знізіць глыбіню беднаты і не падвысіць узровень жыцця маламаёмасных катэгорый насельніцтва нашай краіны", - заявіў лідэр дэмакратычных сілаў Аляксандр Мілінкевіч у адказ на прыняццё Палатай прадстаўнікоў праекта закона "Аб дзяржаўных сацыяльных ільготаў, правах і гарантыях для асобных катэгорыяў грамадзян".**

"У кожнай краіне ёсць сацыяльна неабароненыя групы насельніцтва, якія маюць абмежаваныя матэрыяльныя рэсурсы і яны, як ніхто іншы патрабуюць сацыяльнай дапамогі. Гэта малазабяспечаныя грамадзяне, шматдзетныя і няпоўныя сем'і, адзінокія інваліды і пенсіянеры, студэнты і беспрацоўныя. Ільготы аказваюць адчувальныя ўплывы на іх матэрыяльнае становішча, а гэта ў сваю чаргу спрыяе скарачэнню ўзроўню беднасці і паляпшэнню дэмаграфічнай сітуацыі.

Эканоміка, нягледзячы на прапагандысцкія штампы, знаходзіцца ў цяжкім стане. Без рэформаў, яна не здольная забяспечыць сацыяльныя стандарты. Нельга зліквідаваць усе льготы пакуль сацыяльная дапамога не стане адраснай. Сацыяльна-эканамічная палітыка ўрада павінна быць накіраваная на падвышэнне ўзроўню жыцця насельніцтва на аснове павялічэння рэальных прыбыткаў грамадзян.

Разам з правядзеннем сацыяльна-эканамічных рэформ стратэгічнай задачай дзяржавы павінна з'яўляцца павялічэнне памеру заробку, якая павінна быць дастатковай не толькі для задавальнення цякучых патрэбаў у сілкаванні, вопратцы, але і патрэбаў у паўнавартасным адпачынку, а таксама ў фармаванні сваіх зберажэнняў".

**Прэсавая служба А. Мілінкевіча**

## З пошты рэдакцыі:

На жаль, рэдакцыя газеты «Зара над Нёманам» у парушэнне беларускага заканадаўства, а менавіта закона аб статусе дэпутата, не друкуе мае артыкулы, якія тычацца работы дэпутата з сваімі выбаршчыкамі. З пачатку дзейнасці Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў 25- га склікання з лютага 2007 г. мною былі скіраваны тры матэрыялы, аднак ніводзін з іх не быў надрукаваны. Ужо не аднойчы да мяне падыходзілі людзі, каб даведацца аб стане справаў па некаторых пытаннях, закранутых ў артыкулах, дасланых у "Зару над Нёманам". Падчас размовы яны выказваюць абурэнне пазіцыяй газеты, якая атрымлівае датацыі з дзяржаўнага бюджэту, а значыць і з іх кішэні, пры гэтым ігнаруюцца інтарэсы грамадзян. Яны выказваюць шэраг прапановаў па выпраўленні сітуацыі, сярод якіх выкарыстанне магчымасцяў публікацыі матэрыялаў у адзіным незалежным выданні Мастоўшчыны "Мастоўскай Праўдзе". Я ўдзячны рэдакцыі МП за тое, што яна прадстаўляе мне такія магчымасці.

**Дзмітрый Кухлей**

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 7 (33) 31 траўня 2007 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.**
дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty06@yahoo.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на тыдзень.
**Распаўсюджваецца бясплатна.**
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі. Іх меркаванне можа не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязкаў.